Цана асобнага нумару 15 гр. | Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 38 (89). Вільня, Субота 30 Красавіка 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Нхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## На першае мая.

Рожныя вынаходы і ўдасканаленьні ў галіне прамысловай далі магчымасьць цераз пасярэдства вялікага вытворства рожнага роду прамысловых прадуктаў згуртаваць у паасобных гарадах вялікую колькасьць людзей з аднолькавымі інтарэсамі. Гэтакім парадкам зьявілася работніцкая кляса злучаная ў прафэсыянальныя саюзы. Дзеля таго, што палажэньне работніцкае клясы ў паасобных дзяржавах амаль што тое самае, дык у сувязі з гэтым узьнікла міжнародная салідарнасьць работніцкае клясы.

Але ўсяму на сьвеце ёсьць месца, час і мяжа. Разумеецца, што гэтыя тры адзнакі не выключаюць і работніцкай салідарнасьці. Справа ў тым, што ў кожнага чалавека ёсьць свае найбліжэйшыя інтарэсы, ёсьць эгоізм, а яны ўжо ствараюць асабістую канкурэнцыю, якая выраждаецца ў дэмагогію.

Заўсёды здараецца гэтак, што дзе канчаецца супольнасьць інтарэсаў, там канчаецца салідарнасьць, а яе месца займае спрэчка і гэтакім чынам запануе разлад, які даходзіць да таго, што работнікі замест таго, каб кіраваць свае натугі на фронт проці фабрыканта — ўзаемна змагаюцца паміж сабою. Тым часам маленькая лічбова, але сьвядомая сваіх кроўных інтарэсаў, група буржуазіі, накінуўшы сваё ярмо на шыі работнікам кіруе імі і вызысківаець іх, як хоча.

Некалькі дзесяткаў гадоў таму назад, у мэтах шуканьня салідарнасьці паміж сабою, работнікі, ці праўдзівей правадыры работніцкіх масаў устанавілі работніцкае сьвята 1-га мая. У гэты дзень работнікі павінны пакідаць сваю працу і выходзіць на вуліцу, каб выявіць і паказаць усяму сьвету, а пераважна буржуазным клясам сваю арганізованнасьць, сваю клясавую сьведамасьць, сваю салідарнасьць.

Аднак-жа гэтыя сьвяткаваньні вялікага, рэальнага значэньня ня мелі, а цяпер на практыцы таксама ня маюць, бо што-раз, пераходзяць у нешта зусім буднішнае, звычайнае, вялае.

Я кажу на практыцы, дык вось далей і хачу адзначыць, што ў тэорыі работніцкая салідарнасьць істнуе, але-ж у запраўднасьці яна вельмі мала выказваецца. Паміма таго, што работнікі зьяўляюцца сябрамі сваіх прафэсыянальных саюзаў, уцягнуліся яшчэ ў варожыя адна другой палітычныя партыі, дык эканамічнае палажэньне адгрываець тут ізной рашаючую ролю. Гэтак сама, як эканамічныя ўмовы работніцкага жыцьця змусіла работніцкую клясу арганізавацца, дык у іншых выпадках яны-ж паводзяць на палітычныя спрэчкі паміж сабою, якія псуюць і нагаршаюць работніцкую справу.

Не ўдаючыся ў далёкія рэчы, не ўглыбляючыся да дна работніцкага пытаньня, мы як выявіцелі сялянскае ідэалёгіі, гаворачы аб работніцкай справе, у доказ праўдзівасьці нашых вывадаў прывядзём два прыклады, як фактычныя выпадкі 1926 году.

У Англіі леташняга году паўстала вялікая забастоўка вуглякопаў. Зразу на падмогу вуглякопам прышлі іншыя работнікі, але-ж іх забастоўка хутка скончылася, а чаму? Пэўна толькі дзеля таго, што свае інтарэсы бліжэй чым чужыя. Гэтак было сярод ангельскіх работнікаў.

Нешта тварылася і ў другіх дзяржавах сярод вуглякопаў. Гэтае нешта было ні больш ні менш, як толькі тое, што работнікі цэлага раду дзяржаваў пастанавілі не дазваляць, каб фабрыканты вывозілі ў Англію болей вугальля, чым вывозілася да часу забастоўкі. Калі многа вуглякопаў, гэтым самы аказалі Ангельцам укосную паслугу, дык польскія вуглякопы, наадварот, беспасярэдна прышлі ангельскім фабрыкантам з дапамогаю. Ясна, сабе на карысьць і на шкоду ангельскім вуглякопам. Хто хацеў называў іх здраднікамі работніцкай справы і г. д., але-ж нічога ад гэтага не зьмянілася, бо эканамічны дзейнік польскага работніка змусіў на гэта.

Польскае вугальле да часу ангельскае забастоўкі ня мела месца збыту, а цераз гэта польскі работнік ня меў працы. Дык вось, калі зьявілася магчымасьць працаваць, польскі работнік і выкарыстаў яе. Гэта адзін прыклад работніцкай неарганізаванасьці і несалідарнасьці работніцкае клясы рожных народаў.

А вось і другі. Паміж вугальна-жалезнымі прамыслоўцамі Нямеччыны, Францыі, Бэльгіі і Люксэмбурга паўстаў саюз. Саюз гэты вызначыў каму і колькі вырабляць жалеза. Саюз гэты меў на мэце ўпарадкаваць жалезную прамысловасьць, устанавіці адну цану на жалеза шмат ніжэйшую ад папярэдняе, а гэтым самым паграждаў амэрыканскай вугальна-жалезнай прамысловасьці. Дык тут трацілі ня толькі амэрыканскія прамыслоўцы, якія вывозілі ў Эўропу жалеза, але-ж і работнікі якія выраблялі яго. І вось, амэрыканскія прамыслоўцы шукалі спосабу разьбіць гэты саюз вугальна-жалезных прамыслоўцаў Эўропы, а амэрыканскія работнікі сваею чаргою проці таго-ж самага саюзу заявілі пратэст. Гэтакім чынам і яны разьбівалі работніцкую салідарнасьць ува імя сваіх эгаістычных „скурных" інтарэсаў, падтрымоўваючы сваіх эксплаататараў. За тое-ж работнікі тых, дзяржаваў, якія прысталі да вугальна-жалезнага саюзу, маўчалі, бачачы ў гэтай штуцы сваіх прамыслоўцаў магчымасьць схапіць трохі большы, а за разам і смашнейшы кавалак.

Дык вось гэтак абстаіць справа работніцкага першамайскага сьвята. А цераз гэтае работнікі і ня могуць здабыцца на перамогу над сваімі эксплуататарамі.

Жадаем работнікам, каб сёлетнее сьвяткаваньне паслужыла ім пачаткам запраўднае салідарнасьці і поўнае вызваленьне ад эксплёатацыі.

Сярод сялянства гэтае сьвяткаваньне не практыкавалася, дзеля таго, што селянін зьяўляецца неяк сам сабе і работнік і працадаўца. Але-ж новае жыцьцё вымагае і ад селяніна арганізацыі і салідарнасьці. І вось—на ўсім сьвеце ўжо ёсьць сялянскія арганізацыі, якія маюць усюды і заўсёды сваю асобую лінію.

*Ст. Рубель.*

## Справа дробных арэндатараў.

На Беларусі ды наагул у Польшчы ёсьць многа дробных арэндатараў, якія тым ці іншым парадкам у працягу многа гадоў трымаюць у арэндзе чужую зямлю.

Польскі ўрад ня маючы добрае волі, каб зразу зрабіць радыкальную зямельную рэформу і гэтакім чынам направіць крыўды ненармальнага земляўладаньня, баючыся пакрыўдзіць абшарнікаў, але-ж бачачы магутны сялянскі рух, пакіраваны ў мэтах земляўпарадкаваньня,—думае крошкамі з абшарніцкага стала задаволіць сялянства.

Дзеля гэтага самага ў 1924 годзе 30 чэрвеня была выдана ўстава, згодна якое даўгатэрміновыя арэндатары маюць права выкупіць зямлю на ўласнасьць. Устава ўжо страціла сілу, дык цяпер-жа ў дадатак да тае ўставы ўрад праектуе ўвясьці гэтакія папраўкі:

1) Устава (з 20.VI. 1924 г.) адносіцца і да дзяржаўных зямель. Гэта знача, калі арэндатар арэндаваў у працягу многа гадоў дзяржаўную (казённую) зямлю, дык таксама мае права яе выкупіць.

2) Выкуп на ўласнасьць будынкаў. Гэта знача, што калі на арэндаванай зямлі ёсьць якія-колечы будынкі належныя да ўласьніка зямлі, але якія знаходзяцца ў карыстаньні арэндатара, дык іх таксама можна выкупіць.

3) Выкуп зямлі не забудаваных, а г. зн. можна выкупіць тыя арэндныя землі, якія не забудаваны арэндатарам.

4) Выкуп тых зямель, якія знаходзяцца ў карыстаньні па праве перадачы аднаго арэндатара другому.

7) Будуць брацца пад увагу перарывы ў арэндаваньні выкліканыя вайною.

8) Адхіленьне артыкулаў, якія пазбаўлялі арэндатараў права выкупу дзеля таго, што арэндатар не плаціў акуратна належнасьці за арэнду, да моманту набраньня моцы закону ўставы ад 20.VI. 1924 г.

Паводле даных Галоўнага Статыстычнага Ўраду на прыватных землях вялікай зямельнай уласнасьці ў Віленскім ваяводзтве гаспадаруе 1937 арэндатараў і на касьцельнай зямлі 4 арэндатары. Фактычна-ж ёсьць болей гэтых

# Зьезд парабкоў.

У Несьвіжы нядаўна адбыўся павятовы зьезд парабкоў. Ніжэй падаём зьмест рэзалюцыяў гэтага зьезду.

1) Сабраныя дэлегаты заяўляюць, што ў тым выпадку, калі іх жаданьняў надзвычайная Раз'емчая Камісія ня возьме пад увагу адносна ўтрыманьня другое каровы і пабольшаньня зямлі пад бульбу, дык парабкі цалком падтрымаюць загад прафэсыянальнага саюзу земляробскіх працаўнікоў, не выключаючы забастоўкі,

2) Зьезд сьцьвярджае, што абшарнікі з лічбы масава звольненых земляробскіх працаўнікоў прынялі нязначную частку гэтакіх, якія шукаюць працы. У сувязі з гэтым належыць спадзявацца вялікае лічбы высяленьня пад адкрытае неба. Хоць і былі дакладна паінфармаваны, аб гэтым дзяржаўныя ўлады, але-ж не ўчынілі нічога запраўднага, каб ўратаваць працаўнікоў ад шыкан і зьнішчэньня.

Зьезд катэгарычна дамагаецца ад ураду: а) урэгуляваць справу шуканьня працы, б) забясьпечыць дах над галавою, в) выплаціць запамогі земляробскім працаўнікам. — У парцэляваных маёнтках, у якіх абшарнікі паэвальнялі працаўнікоў пагвалчаючы правовыя нормы аб зямельнай рэформе, зьезд прыказвае земляробскім працаўнікам з гэтакіх маёнткаў, хто не атрымаў зямлі, не выходзіць з занятых імі будынкаў, бароначы гэтакім спосабам сваё права на зямлю, прызнанае ўставаю аб выкананьні зямельнай рэформы. — За тыя выпадкі, якія пры гэтым могуць здарыцца земляробскія працаўнікі адказнасьць з сябе зьнімаюць і адначасна заклікаюць урад, каб ён памог земляробскім працаўнікам у іх барацьбе за захаваньне сваіх правоў абавязуючых у Польшчы, якія таксама абавязуюць і абшарнікаў.

Зьезд дамагаецца ўвядзеньня Касы Хворых для земляробскіх працаўнікоў нараўне з усімі работнікамі.

Гэтыя рэзалюцыі вельмі ўстрывожылі абшарнікаў, якія зараз цераз свой абшарніцкі саюз пры пасярэдніцтве анкеты распачалі зьбіраць весткі адносна запраўднага палажэньня пытаньняў паднятых у рэзалюцыях парабкоўскага зьезду.

І свае рэзалюцыі абшарніцкі саюз таксама прадставіў ураду, у якім выходзіць гэтак, што ўсё добра і яны ні ў чым не вінаваты, бо работнікаў вышэй пяці з аднаго маёнтку нідзе ня звольнена, а звальненьне, дык адбываецца толькі дзеля падбору парабкоў з маральнымі кваліфікацыямі, а тое, што парабак выдалены з маёнтку і ня маючы дзе прыхіліцца будзе цярпець голад і холад, дык іх не адносіцца...

Адносна-ж пагрозы забастоўкаю, дык, ведама, па абшарніцкаму разуменьні гэта — дэмагогія. А пастановы зьезду аб тым, каб дамагацца надзелу зямлі з таго маёнтку, гдзе служыць парабак і які парцэлюецца, дык абшарнікі лічаць шкоднаю агітацыяй і падбурэньнем да безпарадкаў... У абшарнікаў дык усё ў парадку' бо іх права.

---

арэндатараў, бо пэўна, што ўсе не выкрыліся.

Вышэй пададзеныя арэндатары арэндуюць каля 24.000 гэктараў. З пасярод арэндатараў ёсьць 33,7 проц. арэнды меней 1-го гэкт., 55,5 проц. ад 1—5 гэкт. і 10,8 проц. вышэй 5 гэкт.

Хоць гэта не адпавядае нашым імкненьням і ня згодна з нашай праграмай, але-ж мусім тут адзначыць, што тыя арэндатары-Беларусы, якіх арэндаваньне абшарніцкай зямлі падыдуць пад папраўкі ўставы з 20-га чэрвеня 1924 г. павінна імкнуцца, як найхутчэй, хоць за выкуп часткова пазбыцца абшарніцкага ярма. Для прыкладу, раскажам адзін факт вельмі характэрны на нашыя часы.

Мястэчка Лыскава, Ваўкавыскага павету, пабудавана пераважна на зямлі абшарніка Быхаўца, які вядзе сваю „слаўную" гісторыю ад быхаўскіх фэадалаў Магілёўшчыны.

Да часаў перадваенных гэтыя маленькія арэндатары-лыскаўцы плацілі пану Быхаўцу год-у-год арэнду і мусілі гэтак ці іначай гадзіць пану, каб ён не памсьціўся над імі. Калі-ж надышла вайна, дык у гэтай справе зьявіўся перарыў, бо як некаторыя лыскаўцы, гэтаксама і абшарнік Быхавец выехалі ў Расею.

Пасьля вайны вярнуўшыся дамоў п. Быхавец пачаў дамагацца выплаты яму арэнды. Арэндатары выплаціць не маглі (ведама ўсім добра як вайна зьнішчыла жыхарства Беларусі). Справа цягнулася да 1926 году, а кончылася тым, што некаторых лыскаўцаў, апошні дабытак прадалі і выплацілі п. Быхаўцу арэнду.

Гэтае здарэньне многа хто памятае з пабочных людзей, бо надта-ж многа было выліта няшчаснымі горкіх сьлёзаў.

Няма ведама толькі, ці прапанаваныя ўрадам папраўкі фактычна маюць на мэце палепшыць палажэньне дробных арэндатараў, бо дагэтулешняя практыка выказала, што цяперашні ўрад бароніць інтэрэсаў абшарнікаў і буржуазіі.

# Новыя выбрыкі паліцыі і урадоуцау.

У апошнія часы паліцыя пачала адумыслова прасьледаваць беларускі адраджэнскі рух. Гэтае прасьледаваньня скіравана проці друкаванага беларускага слова, якое натуральна пашыраецца на вёсцы. Паліцыя і ўрадоўцы адбіраюць ад сялян беларускія газэты і запужваюць іх, каб ня чыталі беларускай прэсы. Мала гэтага, паліцыя канфіскуе беларускія кніжкі, адбірае і нішчыць беларускія адрыўныя календары. На падмогу паліцыі пайшлі некаторыя ўрадоўцы-паштары і сваевольна канфіскуюць прысыланыя для падпішчыкаў беларускія газэты.

На доказ вышэйпаданага зьмяшчаем тут наступныя факты:

На пошце ў Вэрэйках, Ваўкавыскага пав. паштовая ўраднічка заявіла, што мае права затрымліваць тыя газэты, якія прызнае за шкодныя, або непатрэбныя. Такім чынам ад 23-га сакавіка с. г. пошта ў Вэрэйках ня выдала Гуртку Інстытуту ніводнага нумару „Сялянскае Нівы".

Іншыя факты адбываюцца ў Браслаўскім павеце. У в. Казакі, Астраўляны і хут. Гайнова зьявілася паліцыя і адбірала ад сялян беларускія газэты і адрыўныя календары. Выконваючы гэта сама паліцыя на месцы рвала календары і адначасна даручыла солтысам, каб яны пазабіралі ад сялян усе календары і аддалі іх паліцыі.

Вышэй паданыя факты зьяўляюцца доказам самаволі і бяспраўя, якія распаношваюцца на беларускіх землях.

Асьцярагаем усіх сялян, каб ведалі добра, што вышэйпаданыя факты зьяўляюцца бяспраўнымі і самавольнымі і затым усе павінны проціставіцца ім. Калі паліцыя або солтысы будуць забіраць ад Вас беларускія легальныя друкі, Вы павінны жадаць расьпіскі. Калі недадуць Вам расьпіскі, то гэты факт павінен быць сьцьверджаны сьведкамі. Далей аб кожным такім бяспраўі трэба напісаць неадкладна ў Беларускі Пасольскі Клюб, або ў рэдакцыю „Сялянскае Нівы".

Рэдакцыя.

# З жыцьця пад Польшчай.

## Пэпэсы высокімі ўрадоўцамі.

Нядаўна памёр пасол Сойму і сябра польскай парт. сацыял. Ф. Пэрль. Наступным кандыдатам у паслы па сьпіску ёсьць б. прэзыдэнт м. Лодзі, а цяпер стараста А. Ржэўскі, Гэты кандыдат зрокся пасольскага мандату, ня хочучы апушчаць свайго урадовага становішча. Далей па сьпіску кандыдатам ёсьць Т. Голувко, які зьяўляецца цяпер начальнікам аддзелу ў Міністэрстве Зям. Спраў. Пан Т. Голувко таксама зрокся пасольскага мандату, каб астацца і далей вялікім урадовым „dygnitarzem".

Гэтыя факты вельмі ярка характарызуюць ППС. якая выстуаае ў ролі абараніцеля працоўных масаў.

## Толькі словы.

Пан прэзыдэнт Масьціцкі ў гутарцы з амэрыканскім журналістым, заявіў што Польшча жадае толькі міру, што ўсе гутаркі аб ваяўнічым настроі марш. Пілсудскага — няпраўда.

Гаворачы аб нацыянальных меншасьцях адказаў, што на палепшаньне адносінаў з нацыянальнымі меншасьцямі мы ідзем ня словамі, а дзелам. Польскі ўрад да ўсіх грамадзян адносіцца аднолькова. Ніякім групам не зьбіраемся даваць спэцыяльныя льготы. Адносімся да ўсіх нац. меньш. бестаронна, маючы на мэце агульную направу палажэньня.

Гаворана добра, словы пекныя, але-ж на жаль, як паказала шматгадовая практыка, дасьлед, дык словы высокіх польскіх урадоўцаў, гэтак і астаюцца толькі словамі...

# Да ведама беларускай вучнёўскай і студэнскай моладзі.

Ёсьць магчымасьць паехаць на навукі ў Амэрыканскія сярэднія і вышэйшыя школы для хлапцоў. Моладзь наша будзе прынята на поўнае ўтрыманьне. Жадаючых скарыстаць з гэтага рэдкага дабрадзейства, просім у найхутчэйшым часе прыслаць нам:

1) просьбу аб прыйме з кароткім жыцьцярысам,

2) мэтрыку нараджэньня,

3) пасьвядчэньне аб навуцы (трэба мець скончаных найменш чатыры клясы гімназіі, або сем кляс школы пачатковай, каб быць кандыдатам у школу сярэднюю, або матуру — ў вышэйшую.

4) Пасьведчаньне доктара аб здароўі наагул.

5) Пасьведчаньне аб маральнасьці ад сьвяшчэнніка, ксяндза, або вядомай беларускай установы.

Просім зацікаўленых зрабіць гэта ўсё безадкладна, каб можна было хутчэй пачаць стараньні аб дазволе на падарожу прад уладамі польскімі.

**Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры, Аддзел у Вільні, завальная 6—5**

# Прысылайце грошы на падпіску.

# Што дзеецца ў сьвеце?

## У Кітайскім катле.

Ангельскія караблі „Кэрэль" і „Вольсэй" былі абстрэляны з абадвох берагоў ракі Янг-Цзе вышэй і ніжэй Чінг-Кіянг недалёка ад Нанкіну. Ангельскія караблі са свайго боку на кітайскія стрэлы, таксама адказвалі стрэламі. Гэтак-сама быў абстрэляны блізка каля Фу-Тунга і Кіу Кіянг амэрыканскі торпэдовец „Пэары".

Каля Ханькоў зьявіліся ангельскія караблі; як акт пратэсту Кітайцы каля Ханькоў на ўзгорку ўставілі цяжкую артылерыю. Ёсьць думкі, што Ангельцы сілаю займуць свае канцэсіі, якіх пазбавіў новы ханькаўскі камуністычны урад. Сталася зусім іначай, бо на караблі прыбыў дэлегат ангельскага ўраду, які мае на мэце вясьці з урадам у Ханькоў перагаворы аб канцэсіях. Чанг-Кай-Шэк пакуль-што ня мае намеру ісьці на Ханькоў, але-ж вайсковыя аддзелы комуністычнага ўраду не чакаюць і наступаюць на аддзелы Чанг-Кай-Шэка, каб заняць трыкутнік паміж местамі Нанкін, Чын-Кіанг і Чанг-Чоу. Камуністычныя аддзелы занялі м. Тай-Пінг.

Каля ракі Янг-Цзе паміж Кітайскімі войскамі і чужаземнымі караблямі трывае перастрэлка.

Два караблі, якія перавозілі войска Чанг-Тсо-Ліна з аднаго берагу на другі ракі Янг-Цзе былі абстрэляны з фортаў Нанкіна і патанулі. Пагібла пры гэтым дзьве тысячы чалавек.

Японцы высадзілі ў Шанхаі новыя свае аддзелы.

Пяць вялікіх дзяржаў злагодзілі супольную ноту да ўраду Чанг-Кай-Шэка ў справе нанкінскіх выпадкаў (аб якіх ужо газэты пісалі) панізіўшы тон і выкінуўшы пагрозы.

## Радавы Саюз.

У Адэсу прыбыло двух хадакоў з Турцыі, як прадстаўнікі ад 500 „некрасаўцаў" казакаў, якія жылі ў Турцыі ад XVIII сталецьця. Казакі „некрасаўцы" ў часе праследаваньня казакаў пры Кацярыне II уцяклі ў Турцыю, але-ж ня гледзячы на тое, што з тых часоў прайшло два сталецьці, сучаснае пакаленьне „некрасаўцаў" уцекачоў захавалі сваю нацыянальную мову і любасьць да Бацькаўшчыны.

Гэтыя „хадакі" з Адэсы паедуць у Маскву, каб вытрэбаваць ад радавага ўраду пазваленьне вярнуцца дамоў, пры ўмове, калі ўрад надзеліць іх зямлёю.

У Баку (на Каўказе) шэсьць бандытаў напалі на коопэратыў і зрабавалі 300.000 рублёў. Бандыты былі арыштаваны, але калі праводзіліся ў управу, дык натоўп народу адабраў гэтых бандытаў ад паліцыі і расправіўся з бандытамі самасудам.

## Японія.

Блізка Сахаліна вялікі японскі карабль разьбіўся аб ледзяную гару і пашоў на дно мора. 50 чалавек пры гэтым утапілася.

Дзеля таго, што ў Японіі збанкрутавала некалькі вялікіх банкаў—там паднялася сярод фінансістаў вялікая трывога і неспакой.

Распачалося значнае паніжэньне цаны японскіх грошай.

Збанкрутаваў г. зв. „пятнадцаты" банк, які меў асноўны капітал 100 мільёнаў іен (адна іена варта была да вайны 96 кап. расейск. гр.).

Усе ўкладчыкі пачалі забіраць свае ашчаднасьці з банку, дык падняўся гэтакі непарадак, што пагражаў усяму японскаму фінанса-эканамічнаму гаспадараваньню; але-ж урад пасьпяшыўся на падмогу выдачаю прыватным банкам адзін мільярд ienaў. Гэтакім чынам трывога пачала ўлягацца.

### Нямеччына.

Нямецкая сэкцыя „куомінтанга" атправіла ў Ханькоў цэнтральнаму камітэту партыі гэтакую тэлеграму: Цеснымі радамі стаімо мы на стражы пазыцыяў цэнтральнага камітэту і праграмы нашага лідэра Сун-Ят-Дзена, а імення саюзу з Радавай Расеяй, саюзу з камуністычнай партыяй і абароны работніцкіх і сялянскіх інтарэсаў.

Гэтая партыя налічвае дзевяць местаў, якія заняты кітайскімі бальшавікамі і дамагаецца далейшай барацьбы з Чанг-Кай-Шэкам.

### Мэксыка.

У Мэксыцы, як ужо ведама, здарыўся бандыцкі напад на цягнік, дык за гэтымі бандытамі наладжана пагоня. Сам ваенны міністар кіруе акцыяю перасьледаваньня бандытаў, якія захапілі 250 тысяч мэксыканскіх пэзаў (гэтак называюцца мэксыканскія грошы) ў золаце. У перасьледаваньні бандытаў бяруць удзел 8 самалётаў.

Мэксыканскі ўрад бачыць у гэтай бандыцкай праяве палітычную помсту з боку мексыканскага духавенства, якое ёсьць ў вялікай нязгодзе з уладаю.

Дзеля гэтага мэксыканцы выдалілі за межы дзяржавы 6 біскупаў, а некаторых ніжэйшых духоўнікаў арыштавалі.

З лічбы арыштаваных духоўнікаў аднаго растралялі, іншыя арыштаваныя пэўна пападуць таксама пад сьмяротную экзэкуцыю.

### Марокко.

Паўстанчы рух у Марокку жыве. Апошнімі часамі газэты ізноў прыносяць весткі аб паўстаньнях пераважна ў Гішпанскай частцы Марокка.

Дзеля таго, што гішпанскія гарнізоны ў Марокку слабыя, дык Гішпанцы мабілізуюць мараканцаў. Сабрана 300 мараканцаў, якія пад даводзтвам гішпанскага афіцэра скіраваны на фронт.

Прымо-дэ-Рывэры, гішпанскі прэм'ер у гутарцы з прадстаўнікамі газэтаў сказаў, што глядзіць на справу з радаснай надзеяй на перамогу над мараканцамі.

Але пасьля гэтай заявы, як пішуць газэты, у Марокко прыбыў гішпанскі вайсковы аддзел і яшчэ чакаюцца новыя аддзелы. Усяго Гішпанія пасылае ў Марокко 20 тысяч чалавек. А гэта сьведчыць, што ў Марокку пачынаецца нешта трывожнае для Гішпаніі.

## Закладайце прыватныя беларускія школы.

Паводле існуючых законаў Беларусы маюць права мець ня толькі прыватныя беларускія школы, але і дзяржаўныя. Аднак гэтае права на ўрадовыя беларускія школы дагэтуль не праведзена ў жыцьцё. Не адказваючыся зусім ад урадавых школ і вядучы далей сыстэматычнае складаньне дэкляарацыяў нам трэба у меру магчымасьці, старацца закладаць хоць прыватныя беларускія школы.

Каб памагчы сялянам закладаць прыватныя беларускія школы, Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры бярэ на сябе ўсе клопаты ў справе атрымліваньня ад уладаў дазволу.

У сувязі з гэтым, зварачваемся да сялян з клічам: закладайце свае прыватныя беларускія школы! Сяляне, якія хочуць залажыць прыватную школу павінны напісаць у Інстытут (Вільня, Завальная 6—5) заяву і падаць даныя:

1) У чым доме мае быць школа? Падаць разьмеры дому (даўжыня, шырыня і вышыня), сколькі вакон і дзьвярэй і далучыць плян дому (можна плян нарысаваць самім).

2) Пасьведчаньне ад павятовага доктара, пасьведчанае староствам, што кватэра пад школу адказвае гігіенічным варункам.

3) Сьпісак дзяцей у школьным веку (ад 7 да 14 г.), падаючы іх век.

4) Прозьвішча і імя вучыцеля, яго адрэс, вучыцельскія кваліфікацыі, нацыянальнасьць, вера.

Такія заявы трэба прысылаць у Інстытут найпазьней да 15-га мая с. г., бо школьныя ўлады прыймаюць заявы на прыватныя беларускія школы толькі да 1-чэрвеня.

**Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры.**

* * *

Па заснуўшай неба сіні
У палёці нястрыманым,
Б'ючы крыльлямі сваімі
Беглі зоркі ў даль нязнану;
А па сьледзі тут за імі
Ноч сваім пакотам цьмяным
Замятала пыл, што зоры
Сваім лётам далі ў горы.

І сьцямнела, ціха стала,
Ноч маўклівa свае казкі
Лісьцям дрэваў шапатала
І рабіла з лісьця маскі,
Землю імі аздабляла,
Пакрапіла роскай краскі
І маўклівa шыбкім скокам
Падымалася к аблокам.

### КЛЯШТАР.

Абвязаны мурам навокал,
Сьцямнелы ад процьмы гадоў,
З жалезнымі кратамі ў боках,
З азнакай турботы сьлядоў,
Стаіш ты закутаны ў ціш,
Лунаючы крыжам у вышы.

Праз браму сталёвую ў боку
Праходзіць тут моладасьць ў кель,
З санлівай сьлязінай на воку
Шчасьлівы затраціўшы цэль
І ціха да самай магілы
Чуць з кельлі: «ах, любы, ах, мілы»...

* * *

Даруй!... Калі можна маліць за другіх...
Малю я сягоньня Цябе на каленках,
Даруй тым, якія прад намі ў сукенках
Буяюць. Даруй ім!... малю я за іх.

Даруй тым, якія штоночы як хваль
Бушуюць гвалтоўна ў Чарльстоне
й Флёрыдзе..
Даруй ім, як колей караць усіх прыдзе:
Няможна нявінных—страшэнны іх жаль.

*Фр. Грышкевіч.*

## НАВІНЫ.

— **Адхіленьне кс. А. Станкевіча ад палітыкі.** Віленскі арцыбіскуп забараніў паслу кс. А. Станкевічу браць удзел у палітычных справах. У сувязі з гэтым кс. А. Станкевіч зьмесьціў ліст у газ. „Bielaruskaja Krynica".

Дзеля таго, што да гэтага часу кс. Станкевіч браў 'дзейны ўдзел у газ. „Bielaruskaja Krynica" з адхіленьнем яго ад успомненай часопісі для далейшага кіраваньня газэтаю склалася калегія з трох асобаў: А. Стэповіч, Каруза і Шутовіч.

**„Беларускі Звон".** У хуткім часе пад гэтакім назовам мае выходзіць двухтыднёвік, які будзе друкавацца лацінікаю.

Пагледзімо толькі, ці гэты беларускі звон, будзе званіць пабеларуску, ці кінецца званіць розную брахню на Беларусаў, як яго папярэднік „Народны Звон", які толькі тым і адзначыўся, што памагаў Луцкевічу ў яго лаянках.

— **Самаўрадавыя выбары.** У палавіне траўня г. г. у 9 гмінах Віленска-Троцкага павету адбудуцца выбары гмінных радаў. Віленска-Троцкі староста выдаў ужо ў мэтах гэтага адпаведнае распараджэньне, павызначаў старшынь выбарных кампаніяў, адбыў з імі адумысловую канфэрэнцыю, адным словам прыгатовіў выбарны апарат. Гэта знача кончылася ўрадавая частка выбарнай кампаніі.

Цяпер, дык ужо астаецца слова за самым сялянствам, ці здолее яно выбраць з пасярод сябе гэтакіх прадстаўнікоў у гмінныя самаўрады, якія запраўды будуць адпавядаць на месцы абаронцам сялянскіх інтарэсаў у межах гміны.

Згодна закону б. камісара ўсходніх земляў, міністар унутраных справаў даручыў палескаму ваяводзе назначыць камісараў па выбарах рады м. Лунінца і Кобрыня і назначыць дзень выбараў па свайму жаданьню.

**Агульны сход сяброў Віленскага Беларускага Коопэратыўнага Банку.** На 29-га красавіка с. г. а 4 гадзіне папаўдні вызначаны звычайны агульны гадавы сход сяброў Банку. Парадак дня: 1) Адчытаньне пратаколу папярэдняга агульнага сходу банку; 2) агульная справаздача банку за 1926 г.; 3) фінансавая справаздача (балянс) банку за 1926 г.; 4) справаздача наглядная рады; 5) бюджэт расходаў на 1927 г.; 6) справа зьмены §§ 9 і 14 статуту банку; 7) стварэньне рэзэўнага капіталу і 8) давыбары сяброў наглядная рады.

**Страх пашырэецца.** Бачачы тое, што Ідэя Беларускага Сял. Саюзу, як запраўдная Ідэя Беларускага Народу, ахапляе што раз шырэйшыя масы сялянства, Луцкевіч гэтак устрывожыўся, што закруціўся, як ашалелы. Нядаўна прыпісаў Сял. Саюзу нейкую згоду і ўгоду з Паўлюкевічам і Умястоўскім, а цяпер ужо перамяніў тон і расьпісаўся аб канкурэнцыі. У сутнасьці ўся луцкевічаўская брахня, гэта агонія аджыўшага луцкевічаўскага баламутства. Інтэрэсы сялянскіх масаў яму тут ня прычым, а галоўнае трывожыць тое, што можа ён быць зусім выкінуты з газэты за сваю правакацыйную працу, бо сяляне пачынаюць высьцерагацца луцкевічаўскае прэсы.

## Гаспадарскі аддзел.

### БУЛЬБА.

Аб тым, якую, якую карысьць і ў якой меры дае бульба беларускаму селяніну пісаць ня трэба, адно толькі адзначу, што бульба гэта такая расьліна, якая найлепей падходзіць да ўправы на нашых неўраджайных землях.

Дзеля гэтага самага, што бульба зьяўляецца надта важнаю расьлінаю, кожны беларускі селянін павінен на яе асабліва зьвярнуць увагу і па меры магчымасьці імкнуцца да таго, каб угадоўваць бульбу культурнымі спосабамі.

Каб мець большую карысьць ад бульбы, дык перадусім трэба падгатаваць зямлю, а дзеля гэтага самага, як паказала практыка—зямлю, якая вызначаецца пад бульбу трэба гараць два разы ўвосень. Першы раз трэба гараць зямлю зараз, як толькі зьбярэцца жыта. Першы раз трэба гараць плытка, а каб ня даць магчымасьці расьці траве, дык трэба пасьля гэтага ральлю бараnaваць.

Другі раз трэба гараць зямлю пад бульбу ужо ўвосень. На гэты раз трэба гараць ужо глыбока і на зіму гэтую ральлю баранаваць ня трэба. У гэтакім выпадку, ужо вясною трэба разьбіць ральлю спражыновай бараною, пакласьці гной і садзіць бульбу, а калі ўвосень зямля ўзгарана толькі адзін раз, дык трэба вясною абавязкова гараць другі раз.

Бульба выбірае з зямлі болей пажывы як зярнавое збожа і мае вельмі слабае карэньне, якія ня могуць прабівацца праз цьвёрдую зямлю, дык дзеля гэтага і трэба ўпраўляць зямлю пад бульбу гэтак, каб яна была мяккая. На зямлі блага падгатаванай бульба ніколі ня ўродзіцца.

Садзіць бульбу трэба рэдка 18 — 22 цалі бульбіна ад бульбіны. Садзіць трэба ня глыбока і гэтак, каб мяккае зямлі было болей над бульбаю чым пад бульбаю.

Рэзаць насеньне бульбы надта дробна ня варта, бо розныя хваробы тады хутчэй прыстаюць да бульбы. Найлепш выбіраць на насеньне сярэдніе бульбіны па велічыне. Найлепшы гной пад бульбу звычайны хлеўны гной, які можна класьці ўвосень, але не пакідаць на паверху, трэба яго загараць, а таксама, можна класьці гной і вясною пры самым саджэньні бульбы.

Добра расьце бульба і па лубіне, асабліва, калі пад лубін даць штучны гной кайніт, які бульба вельмі любіць.

Гной гэта дарагая рэч, ня кожны гаспадар мае яго стольбкі, колькі трэба, а дзеля гэтага трэба як мага лепш выкарыстаць. А калі гэтак, дык гной трэба класьці проста ў баразну, у тую ў якую садзіцца бульба. Хоць на гэта і прыходзіцца затраціць лішняга работніка, але-ж за тое ўвосень, дык гэтакі гаспадар выбярэ болей.

Гэтае саджэньне бульба асабліва карысна на жвіраватай зямлі.

Наагул на гэтакае саджэньне бульбы ўходзіць палова гною і бывае ўдвая лепшы ўраджай.

Іншыя штучныя гнаі, акрамя кайніта, не дуюць вялікае карысьці бульбе.

Пасьля саджэньня бульбы трэба праз 1—2 тыдні забаранаваць, каб зьнішчыць траву і падпушыць зямлю.

Абганяць бульбу трэба што найменей тры разы. Але тагды, калі бульба зацьвіце яе ўжо нельга чапаць.

*Ніколі не зьнішчай газэты, прачытаўшы дай яе суседу.*

